 

### ДАРОГА СЛАВЫ

# ДЭВІЗ КОХА

16 чэрвеня 1942 года па загаду палкоўніка СС Вернера Фрома за дапамогу партызанам быў спалены Райск у Бельскім павеце і расстраляна 140 жыхароў.

3 чэрвеня 1943 года па загаду падпалкоўніка СС Герберта Цымермана, начальніка беластоцкага гестапа, за дапамогу партызанам была спалена вёска Папоўка і расстраляна 36 яе жыхароў.

11 кастрычніка 1943 года па загаду падпалкоўніка Герберта Цымермана было расстраляна 56 партызанскіх сувязных — жыхароў вёскі Лазні і Сакалда ў Сакольскім павеце.



**Міхась Храноўскі («Цішка») з Дзернякова, партызан атрада камуністаў Беластоцкага павета. Загінуў 9 верасня 1942 г. пад вёскай Радунін.**

Пастаянна расстрэльвалі або вешалі ў Белавежы, Піліках пад Бельскам і на месцах масавай казні каля Беластока — у Грабаўцы, Навасёлках, Старасельцах і дзесятках іншых месц. Гітлераўскія ўлады выдавалі ўсё больш зверскія загады з мэтай задушыць партызанскі рух.

Вось выпіска з загаду галоўнага камандвання Вермахта. ад 16 снежня 1942 года, падпісанага фельдмаршалам Вільгельмам Кайтэлем: «Вермахт і іншыя вайсковыя злучэнні ў барацьбе з партызанамі могуць прымяніць усе сродкі, незалежна да каго — мужчын, жанчын ці дзяцей. Ні адзін немец, які ўдзельнічае ў барацьбе з партызанамі, не можа паносіць дысцыплінарнай адказнасці і не можа быць пастаўлены перад вайсковым судом за ўчынкі ў адносінах да насельніцтва...»

А вось выпіска з другога загаду камандвання Вермахта і падпісанага генерал-палкоўнікам Ёдлем: «Апрача вайсковых і паліцэйскіх арганізацый усе іншыя арганізацыі і кожны немец павінны быць уцягнуты ў барацьбу з партызанамі. Кожны чалавек, які падтрымлівае партызан, дапамагае ім хавацца, затойвае іх месца схованкі і г.д. павінен быць забіты. Жанчыны, дзяўчаты, дзеці, западозраныя ў тым, што з'яўляюцца партызанскімі агентамі, павінны быць ліквідаваны на месцы.



**Аляксандр Лісоўскі з Пясчанікаў, былы член КПЗБ, партызан атрада імя Суворава.**

Загад аб масавым расстрэле можа быць выданы кожным афіцэрам не ніжэй капітана...»

У Беластоку гаўляйтэр Эрых Кох пастаянна прыпамінаў сваім падуладным: «Лепей павесіць на сто чалавек больш, чым на аднаго менш...» Амаль штодзённа на сценах дамоў у гарадах і на платах у вёсках наляпліваліся чырвоныя плахты аб'яў, у якіх начальнік гестапа Цымерман падаваў лікі расстраляных і назвы спаленых вёсак.



**Аляксандр Мойсак з Гарадка — былы сакратар раённага камітэта КПЗБ, санацыйны вязень, партызан атрада імя Суворава. Загінуў у красавіку 1944 г. на Палессі.**

Але ўсе чалавеканенавісніцкія крокі гітлераўцаў давалі зусім адваротны эфект. Зіма і вясна 1944 года прынесла ўзмацненне партызанскай барацьбы на Беласточчыне, як зрэшты, і ўсюды Множыліся партызанскія дыверсіі.

6 мая 1944 года партызанскі атрад капітана Макарава ўварваўся на станцыю Чарэмха, забіў некалькі немцаў і ўзарваў паравознае дэпо Той самы геройскі атрад, у якім змагаліся беларусы з вёсак Ставішчы, Мядзвежыкі, Рагачы, на чыгунцы Чарэмха — Седльцы падарваў за час сваёй дзейнасці 18 гітлераўскіх эшалонаў.

Атрад камуністаў з Беластоцкага павета вяяваў на Палессі ў складзе брыгады «Савецкая Беларусь». Беларусы — камуністы з Беласточчыны ў радах гэтай брыгады запісалі не адну старонку слаўнай гісторыі сваёй брыгады. Аб апошнім перыядзе барацьбы гэтай брыгады ўспамінае Язэп Храноўскі — «Андрэй» з Дзернякова:

«Калі прышла вясна 1944 года і калі ўсё Палессе было адным велізарным партызанскім краем, мы займалі ў гэтым краі вёскі Спораў і Здзітаў. На пачатку красавіка 1944 года наша разведка данесла, што з усходу у наш бок рухаюцца значныя сілы немцаў. Гэта былі войскі з фронту, з артылерыяй і цяжкай зброяй. Камандванне брыгады аб'явіла трывогу. Сотні партызан капала акопы. Мы выбралі сабе месца абароны паміж Чэрным і Спораўскім азёрамі. Спераду ў нас была дрыгва і рака Здзітаўка з разбураным мастом. Да нас вяла адзіная дарога праз грэблю. Пасоўванне немцаў гаварыла аб тым, што яны будуць наступаць на грэблю, захочуць атакаваць і «выкурыць» нас са Спорава і Здзітава. Бой разгарэўся 6 красавіка 1944 года. Заіграла нямецкая артылерыя, мінамёты, кулямёты. Мы схаваліся ў акопы і земляныя бункры. Немцы выкарысталі самалёты. Нізка, з брыючага палёту абсыпалі нас кулямі з кулямётаў і лёгкімі бомбамі. Потым у атаку пайшла пяхота. Немцы лічылі, што артылерыя і самалёты знішчылі нашы пазіцыі. Мы адкрылі агонь. Грэбля была заслана сотнямі забітых немцаў. Атакавалі шмат разоў, але грэбля засталася ў нашых руках. А ўзяць нас маглі толькі здабыўшы грэблю. За гэты кавалачак зямлі разгарэлася пазіцыйная барацьба, якая цягнулася шмат дзён. Немцы перавышалі нас сілай агню, узбраеннем, тэхнікай. А мы іх хіба толькі мужнасцю, нянавісцю, упартасцю. Гэта ўжо была не партызанская барацьба, а фронт. У час тых баёў загінула шмат нашых сяброў. Аднак фашысты не прайшлі праз грэблю. Перамога засталася за намі...»

**А. АМІЛЬЯНОВІЧ**



**Ваенны цягнік, узарваны партызанамі капітана Макарава на чыгунцы пад Чарэмхай.**

# ВАЛІЛАЎСКІ МІЛЬЁН

Разнароднымі мерапрыемствамі адзначаюць людзі Дваццацігоддзе нашай дзяржавы. **Грамада Валілы**, што ў Беластоцкім павеце, — мае свой МІЛЬЁН, а дакладна: 1 мільён 44 тысячы 100 злотых. На столькі пабагацеюць вёскі валілаўскай грамады, калі зробяць усё тое, што абавязаліся зрабіць у гонар **ХХ-цігоддзя нашай дзяржавы.**

Што можна зрабіць за мільён злотых?

У вёсцы **Дзернякова** пралажаць 800 метраў бруку. Жыхары Дзернякова таксама хочуць забяспечыцца перад няшчасцем ад агня. Яны будуюць вялікае вадасховішча для супрацьпажарных патрэб.

Падобную працу будуць праводзіць жыхары вёскі **Валілы.** Толькі апрача пабудовы жвіраванай дарогі і вадасховішча, яны маюць дадатковы клопат. Школа ў іх вёсцы патрабуе грунтоўнага рамонту. Вось летам, калі дзеці пойдуць на канікулы, неадкладна трэба будзе ўзяцца за гэта. Для школы сваю ўвагу, час і працу прысвячаюць таксама жыхары **станцыі Валілы.** Тут справа ўскладняецца яшчэ і тым, што ў будынку, аб якім мова, ніколі не вучыліся дзеці. Цяпер трэба перарабіць яго на школу. Гэта патрабуе многа грошай і працы.

**Радунінцам** асталося шмат работы з папярэдніх гадоў. Яны спадзяюцца, што ў бягучым годзе ўрэшце закончаць брукаванне сваёй вёскі. Засталося яшчэ 130 метраў.

Жыхары невялічкай вёскі **Случанка** хочуць адразу прыпадобніць сваю вёску да горада. Задумалі пралажыць у сябе тратуар — аж паўкіламетра роўненькай цэментавай дарожкі. Вось добрая думка! Каб толькі з гэтым тратуарам не было так, як са святліцай, якую ўжо ў Случанцы будуюць больш 5 год.

Сяляне **Пілатоўшчыны** зробяць дзве перамычкі для адваднення дарогі і навязуць жвіру на гэтую дарогу.

Шмат чаго намераны зрабіць **працаўнікі валілаўскай бензіновай станцыі.** Кожны з 40 рабочых абавязаўся працаваць 5 дзён пры рамонце школы, затым яны зробяць фундамент пад дзіцячы сад у пасёлку Валілы і навязуць жвір на кіламетр патрэбнай ім дарогі.

**Вось што галоўным чынам будзе зроблена на працягу 1964 года ў валілаўскай грамадзе за мільён злотых.** Лёгка аб тым гаварыць. Вазьміце хаця б для прыкладу вёску Дзернякова. 800 метраў бруку, які сяляне намераны пракласці, каштаваць будзе 423 тысячы злотых. Каб гэтыя грошы прызначыць выключна на пакупку каменняў, патрэбных на брук,назбіралася б 6 тысяч вялікіх вазоў. Гэта дае нейкае ўяўленне аб велізарнай працы, якая чакае сялян Валілаўскай грамады. **Сваёй працай яны пакрываюць больш палавіны коштаў запланаваных работ.**

**Віктар Рудчык**

# МЕСЦА Ў ЖЫЦЦІ

**(Працяг са стар. 1)**

ніны і здабывалі першыя або адно з першых месц у павеце. У гэтым годзе гурток вырашыў пасадзіць 0,25 га фасолі, а на наступны год прыступіць да супольнага вырошчвання ільну. Гурток мае сваю сціральную машыну, якою карыстаюцца не толькі члены гуртка вясковых гаспадынь. На сваім сходзе жанчыны неаднойчы застанаўляюцца, як лепш гаспадарыць, як павялічваць сельскагаспадарчую вытворчасць. Часта ў гэтых справах звяртаюцца яны да агранома грамады Дубіны.

*

Нядзеля — дзень адпачынку. У вясковым Доме культуры выступаюць самадзейнікі з Альхоўкі. Да Ніны прыйшлі яе сяброўкі.

— Давайце і мы сёння выступім, добра?

Адны згаджаліся, другія не выражалі жадання. Ніна заходзіць да некаторых удзельнікаў харавога калектыва і праз нейкі час яны ўсе на сцэне. Гучыць іх любімая старынная песня «Ой ляцела арліца праз сад». Харавы калектыў пад кіраўніцтвам Ніны Янчук, які складаецца ў большасці з замужніх і жанатых, ужо неаднойчы выступаў на сцэне ў сваёй і суседніх вёсках, браў удзел у павятовых дажынках.

*

Муж Ніны, Фадзей, з'яўляецца старшынёй сельскагаспадарчага гуртка ў Дубінах. Гурток гэты залічваецца да перадавых у павеце. Мае ён ужо тры трактары з поўнымі камплектамі гаспадарчых машын.

Ніна і Фадзей жывуць згодна і добра. Абое маюць шмат грамадскай працы.

Ёсць у іх дачка Валя. Вучыцца ў Беластоку ў Тэкстыльным тэхнікуме.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

# ШТО ДАЛЕЙ

**(Працяг са стар. 1)**

дзеных меліярацыйных работ і іх эфект. Цяпер у нас меліяравана 113 тыс. га лугоў і паш. У гэтым пяцігадовым плане таксама вялікая ўвага звернута на меліярацыю зялёных угоддзяў. Толькі ў адным 1964 годзе на меліярацыю прызначана 219 млн. зл., а ў апошнім годзе пяцігодкі дзяржава прызначыць на гэта 274 млн. зл. Наша задача — дагледзець, каб дапамога дзяржавы была выкарыстана рацыянальна, каб кожны ўкладзены грош прыносіў максімальную карысць.

Значныя дасягненні маем у галіне электрыфікацыі вёскі. Ужо каля 56% беластоцкіх вёсак мае электрычнае святло. Аднак электрычнасць — гэта не толькі лямпачкі ў хатах, гэта таксама адзін з дзейнікаў павелічэння прадукцыйнасці нашай сельскай гаспадаркі. Электрыфікацыя паляпшае быт на вёсцы, аблягчае правядзенне радыёфікацыі і дае магчымасць механізаваць найбольшыя працаёмкія хатнія работы.

### ПРАБЛЕМА КАДРАЎ

Развіваючаяся гаспадарка ваяводства патрабуе новых кваліфікаваных кадраў. Гэта праблема робіцца незвычайна важнай для нашай гаспадарчай дзейнасці, як і ў перспектыве развіцця ваяводства. У параўнанні з іншымі раёнамі краіны, Беласточчына мае мала кваліфікаваных кадраў. Гэта датычыць усіх галін беластоцкай гаспадаркі. Значную ролю ў папаўненні кваліфікаваных кадраў адыгрываюць дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы — Вячэрняя інжынерская школа і Медыцынская Акадэмія. Аднак вельмі патрэбна ў Беластоку дзённая інжынерская школа і вышэйшая навучальная ўстанова гуманістычнага тыпу.

**А. БАРВІЮК**

# Тэлевізар і культура

На гэты год беластоцкі СФОС зноў не забыў аб тэлевізарах для вёскі. На гэта прызначана 890 тысяч злотых, па 40—50 тысяч для кожнага павета. Зразумела, умовай атрымання тэлевізара тою ці іншай грамадай з'яўляецца добрая праца грамадскага камітэта СФОС.

1300 тысяч злотых СФОС вызначыў на заканчэнне будовы Дома культуры ў Гарадку. Будоўля гэта вельмі карысная рэч, каб толькі яна напоўнілася вартасным і добрым зместам. Каб не шкада было ўкладзеных грошай і працы. Бо ж прыклад Міхалова і многіх іншых паказвае, што збудаваць Дом культуры ці святліцу лягчэй, чым потым у ёй добра працаваць. (вл)



 

 

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ЗАЛАТЫ НАПІТАК

Есць такі залаты напітак — цуд у смаку і незвычайнае лякарства. Яго цэняць і знаюць людзі ўжо тысячы гадоў. Вядомы ва ўсіх краінах і малавядомы ў... нашым ваяводстве. У нас ёсць толькі каля 55 тысяч вулляў, ды і тыя пераважна на малых пасеках (5—10 вулляў). Некалькі большых і добрых пасек можна спаткаць каля Бельска і Гайнаўкі.

Пчалярства — старая гісторыя. Археалагічныя раскопкі гавораць аб выкарыстоўванні пчалінага вырабу яшчэ 15 тысяч гадоў назад. Шырока гадавалі пчол старажытныя рымляне. Сам Арыстотэль займаўся доследамі і назіраннямі жыцця пчол.

У Польшчы даволі шырока было распаўсюджана бортніцтва, асабліва ў Белавежскай і Курпёўскай пушчах. Толькі забарона гадаваць пчол у казённых лясах стрымала бортніцтва. Яшчэ сёння можна сустрэць у Белавежскай пушчы або ўбачыць у музеі старыя борці.

Значыць, маем вялікія традыцыі. Калісьці мы славіліся бортніцтвам. Нічога дзіўнага, гэтаму спрыялі велізарныя лясы. Сёння наогул бортніцтва не існуе, бо гадоўля пчол абапіраецца на навейшых дасягненнях. Пчаляр не шукае месца для пчол у дуплах старых дрэў, а будуе розныя тыпы вулляў, сее меданосныя расліны. З аднаго вулля можна атрымаць 50 кілаграм мёду, хаця ў сярэднім атрымоўваюць па 5—6 кг.

Многія пчаляры не вядуць рацыянальнай гаспадаркі, спадзяваюцца толькі на пчол. Часта яшчэ ў нас выбіраюць мёд з вулляў на зіму, ад чаго пчолы масава гінуць з голаду, рой слабсе і на другі год мала дае мёду.

Цяпер настаў час веснавога перагляду. Звяртаем увагу на матак, сем'і і гнёзды, а таксама іх запасы мёду. Запас мёду не павінен быць меншы 6 кілаграм. За дзень пчолы з'ядаюць каля 300 грам. Калі запас зменшыцца на 1 кг, трэба пачаць дакармліваць. У іншым выпадку рызыкуем мець вялікія страты. Цяпер якраз такі час, што пчолы не маюць магчымасці самастойна папаўняць свае запасы.

Апрача гэтага наводзім парадак на пасецы. Забіраем непатрэбныя рамкі; чысцім гнёзды і вуллі. Калі заўважым нейкую хваробу, адразу звяртаемся да ветэрынара.

Варта памятаць, што пчалярства мае свае праблемы. Як і ў гадоўлі хатняй жывёлы, трэба старацца ўдасканальваць пароду ў сэнсе павелічэння прадукцыйнасці. У пчалярстве галоўная справа — мець добрую матку. У апошні час праведзены шэраг цікавых доследаў са штучным асемяненнем пчаліных матак. Гэта дало добрыя вынікі і дапаможа хутчэй пашырыць у нас пчалярства.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ



Бельская арганізацыя ЗМВ (Саюз Сялянскай Моладзі) пастаянна ўзрастае. На здымку: старшыня павятовага праўлення ЗМВ у Бельску Анатоль Скарбіловіч уручае трохтысячны білет члену ЗМВ Мікалаю Алексеюку.

# ДНІ ДУХОЎНАГА ХЛЕБА

Дні асветы, кнігі і друку ва ўсёй краіне праходзяць у гэтым годзе асабліва ўрачыста. Вядома, такі год бывае раз на 20 год. Дзень Дзеяча Культуры святкаваўся 3 мая ва ўсіх ваяводскіх гарадах і ў многіх павятовых. Многія дзеячы атрымалі адзнакі заслужанага дзеяча культуры і ўзнагароды. У Беластоку мы святкавалі такі дзень нашага дзеяча 2 мая. У кінатэатры адбылася ўрачыстасць уручэння ўзнагарод, а потым быў баль дзеяча культуры, першы такога роду. Людзей з'ехалася мноства, і пераважна з вёсак. У гэтым годзе асабліва вёска ідзе ўгору. Для яе арганізуецца многа мерапрыемстваў. Дні Асветы, кнігі і друку будуць прадаўжацца да канца мая. Хай не падводзіць нас майскае сонца. (вл)

# ДОБРЫ ПРЫКЛАД



**Як толькі сышоў снег, міліцыянеры чыжоўскага пастарунку выйшлі навесці парадак вакол свайго будынка. Хвалім іх за тое! Цяпер з чыстым сумленнем чыжоўскія міліцыянеры могуць караць грамадзян за беспарадак.**

Тэкст і фота В.Р.

# СПАТКАННЕ З БАГАЦЦЕМ

(Працяг са стар. 1)



Старое і новае (мураванае).

корнінскага гаспадара. Ён шмат чаго зразумеў і захацеў, прыглядаючыся да таго, што робяць спулдзельцы. Ён напeрагон пачаў пазычаць у іх машыны і трактары. Прыкорнінская акеліца мае нават арыгінальнага энтузіяста гэтых машын — Івана Саевіча з Доўгага Броду, які сам сабе пабудаваў трактар. На ім сфатаграфаваўся першым старшыня грамадскай рады...

Лічба коней паменшылася, робяцца непатрэбнымі. Факт. Замяняюць іх «механічныя коні» трактарыста Валодзі, іх не трэба карміць цэлую зіму. Разам з тым вёска пабагацела на 54 каровы. Але тут заслуга не толькі спулдзельні, колькі меліярацыі — адыграла сваю ролю, палепшыла пашы. У заможным Старакорніне не так даўно адкрыты пункт скупу малака — раней не аплачвалася. Па праўдзе кажучы, аб заможнасці можам гаварыць пачынаючы ад апошніх год, хаця глебы адны з лепшых на Гайнаўшчыне (кажуць, Новаберазова чарназёмнае). Гаспадарская праца аплачваецца пры ўраджаях збожжа не меншых, чым 15 цэнтнераў з 1 гектара, высокіх надоях малака, добрай гадоўлі. Ані аднаго, ані другога, ані трэцяга не было

Ёсць у Старакорніне некаторыя гаспадары, якія не вераць у стварэнне высокадаходных гаспадарак, як старыя непісьменныя бабулі не вераць яшчэ, што вакол зямнога шара лётаюць спадарожнікі. А Сцяпан Аляксеюк іншы раз нават пасмейваецца і з тых, што спяшаюць з уборкаю ў жніво (куды бяжыш, маўляў, што мае быць, тое будзе...) Не лепшы ад яго і Матвей Баравік. У першага, як і ў другога, гаспадаркі амаль дзесяцігектаравыя, ёсць дарослыя дзеці. Трымаюць па адной кароўцы (не заўсёды дойнай) і па пару коней. Свіней не маюць, а калі і завядзецца ў іх якое свінчо, зараз заколюць... Навошта ім аж па двое коней? Бачыце, ужо ніхто не хоча мець дачыненне з імі, спрагацца (супражыць). Баравікоў аднафамілец, Міхайла, мае дванаццаць гектараў, аднаго каня, шэсць кароў, дванаццаць свіней і... ён не чакае таго, што мае быць, як Матвей, але намагаецца таго, чаго хоча. Або Іван Перастрэт. У яго столькі зямлі, як і ў Аляксеюка, але ў яго, не лічачы каня, ёсць пяць кароў, многа свіней (кантрактацыя). Мне сказалі, што пазаўчора Перастрэт за парку парасят узяў дзве тысячы злотых. Відаць, свіны маладняк усюды ў вялікай цане, толькі не ў Сцяпана ды Матвея...

*

Старакорнінскія дзяўчаты і хлопцы не адчувалі пільнай патрэбы шукаць сабе лепшай долі ў здабыванні навукі. Доўга маніў яе з ціхіх панадворкаў у белы свет наш цікавы дваццаты век. Нарэшце сталася: брукаваная корнінская дарога зараілася моладдзю. Хто ў Гайнаўцы —вучыцца, хто ў Бельску, хто ў Варшаве. Магчыма, садзейнічаў таму і новы стараберазоўскі чыгуначны паўстанак — два кіламетры адсюль, на дваццаць мінут вольнай хады. Пеця Саковіч вучыцца завочна ў Беластоку, у сельскагаспадарчым тэхнікуме, а ад восені працуе тут грамадскім аграномам. Малады але любіць зямлю, гаспадарку — салідную і разумную. Будзе сапраўдным аграномам. Вера Аліферук паступіла ў варшаўскую палітэхніку, там высока ацанілі яе працавітасць і талент — паслалі Веру вучыцца ў Маскву. Тоня Красько гайнаўская ліцэістка, марыць аб кар'еры лекара выбіраецца ў беластоцкую медыцынскую акадэмію. Падобных ім дзяўчат і хлопцаў ёсць і будзе больш. Яны — другое багацце Старакорніна

Аб тым, што навука таксама багацце, дарослыя пераканаліся яўна, а маладых многа пераконваць не трэба.

САКРАТ ЯНОВІЧ



Саевічаў трактар

# СВЕДКІ СТАРЫНЫ

Уявіце сабе жыхара нашай вёскі, які жыў на Беласточчыне 50—75 год таму назад. Кожны гаспадар тых часоў большасць патрэбных у гаспадарцы прылад рабіў сам або заказваў у мясцовага майстра - рамесніка. Араў драўлянаю сахою, малоў на жорнах, гной выбіраў драўлянымі віламі (глядзі здымак), розныя каробачкі, фаскі (туязкі), у якіх трымаў масла, шмалец або муку ці крупу, рабіў з бярозавай і ліпавай кары, часам з саломы. Тавар насіў на кірмаш у кашолках, перакінуўшы іх праз плячо. Хадзіў тады селянін, зразумела, у лыкавых лапцях.

Калі аднак надыходзіла свята або нейкая сямейная ўрачыстасць, над іконамі, над вокнамі і над дзвярыма паяўляліся ў хатах густоўна вышываныя ручнікі. Звярніце ўвагу на іх ўзоры. Якая далікатнасць строчак! Над даматканым палатном выбеленым вадой, хлоркай і вясеннім сонцам, доўгія гадзіны праседжвалі вясковыя маладухі, рыхтуючы сабе багаты пасаг, а вышываныя ручнікі былі абавязковым элементам пасажнай скрыні. У свята мужчыны і дзяўчаты апраналіся таксама ў вышываныя рознымі колерамі ўборы. Кашулі і блузкі былі пераважна з белага даматканага палатна (глядзі здымак), але іх бела-шэрую аднастайнасць раз'яснялі каляровыя, найчасцей чырвона - чорныя (найбольш даступныя краскі) вышыўкі. Жанчыны, асабліва старэйшыя, абавязкова падвязвалі фартушкі — таксама вышываныя, часта абшытыя карункамі, зразумела, сваёй работы.

Адкуль мы гэта ведаем? Першая крыніца — непасрэдная. Гэта расказ старых людзей. Другая крыніца — больш цэнная і трывалая, — гэта прадметы, якімі тады карысталіся. Яны паказваюць, як апраналіся, якімі прыладамі карысталіся сяляне — значыць, паказваюць, як яны жылі. Спецыялісты сказалі б, што рэчы гэтыя адлюстроўваюць узровень матэрыяльнай культуры.



Чацвёрты з'езд БГКТ між іншым прыняў пастанову аб арганізацыі музея, у якім знайшлі б сховішча і адпаведнае забеспячэнне астаткі даўнейшай матэрыяльнай культуры — гэтыя сведкі старыны. Паасобныя аддзелы БГКТ праводзяць збор экспанатаў Асабліва багатымі вынікамі можа пахваліцца Гайнаўскі аддзел БГКТ Уборы і прылады хатняга карыстання, якія вы бачыце на здымках, знаходзяцца зараз у памяшканні Гайнаўскага аддзела.

Тэкст і фота В. Рудчы





 

 

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# „ЛАГЕР СТАГОДДЗЯ"

Далёка на поўначы Грэнландыі пабудаваны атамны горад, названы амерыканцамі «Лагер Стагоддзя» (Camp Century). Незвычайны гэты горад авеяны туманам таямніцы. Шведскаму журналісту ўдалося пабываць у ім. Вось яго расказ.

— Гэта там, — пачуў я ў навушніках голас амерыканскага лётчыка. Амаль дзве гадзіны ляцелі мы над вечнымі ільдамі Грэнландыі, асепленыя сонцам. Пасадка адбываецца на даху «Лагера Стагоддзя». Апынуліся твар у твар з 30-цігfootрадусным марозам і арктычным віхрам. Знаходзімся ў адлегласці 200 кіламетраў на поўнач ад апошняга цывілізаванага пункта Грэнландыі, аэрадрома Туле, і раздзяляе нас усяго паўгадзіны палёту рэактыўным самалётам да паўночнага полюса.

Паяўляюцца людзі, якія вядуць нас у засыпаны снегам уваход тунелю. Ён, як пасля аказалася, ёсць галоўным уваходам у атамны горад. Змрок рассвятляюць неонавыя лямпы. З тунелю выходзяць клубы пары, усюды поўна ўсякіх труб і электрычных правадоў. Апускаемся 20 метраў пад лёд і раптам, на вялікае дзіва, аказваецца, што знаходзімся пасярэдзіне незвычайнага горада.

Я не перабольшваю — знаходзімся ў цэнтры горада з дзесяткамі вуліц. Сорак дамоў, кіно, бібліятэка, сталовая, бальніца, майстэрні і нават уласная радыёстанцыя. Жыве тут 200 чалавек — амерыканскіх вайсковых, вучоных і тэхнікаў. Сэрцам горада з'яўляецца атамны рэактар, здольны даць больш цяпла і электрычнасці, чым цяпер гэта патрэбна.

Так выглядае «Лагер Стагоддзя» сёння. Але будова гэтага незвычайнага горада пад ільдамі пачалася тры гады таму назад. Пабудавалі яго хутка, на працягу аднаго кароткага палярнага лета. Матэрыялы былі давезены параходамі і самалётамі да Туле. Далей вязлі іх дзесяць цяжкіх трактароў, кожны з іх цягнуў сем прычэпаў на вялізных двухметравых колах. Ехалі чатыры дні, нідзе не прыпыніліся нават на хвілінку. На месцы спецыяльныя плугі «выграблі» вуліцы, а гатовыя да стаўляння будынкі ўцягнулі па адным праз тунель.

Сёння тут кіпіць праца. Круглыя суткі працуе метэаралагічная станцыя. Вымярэнне магнітнага поля, доследы плям на Сонцы, сейсмічныя назіранні, распрацоўка ўласцівасцей розных матэрыялаў у арктычных умовах — вось якая праграма навуковай дзейнасці. Для вопыту, у адным з тунеляў, на глыбіні 40 метраў, ездзіць эксперыментальны паравоз.

Другія вучоныя працуюць над мала вядомай з'явай, так званага, выбуховага лёду. Гэты лёд знаходзіцца на вялікіх глыбінях. Выняты на паверхню выбухае, разлятаецца на драбнюсенькія кавалачкі. Справа ў тым, што на версе перастае дзейнічаць на яго гіганцкі ціск пакладаў векавых ільдоў, пад якімі ён знаходзіцца... Лёд дае атамнаму гораду ваду; бяруць яе са студні «выразанай» струменнем гарачай пары.

У «Лагеры Стагоддзя» жывуць толькі мужчыны. Кожны з іх жыве тут па некалькі месяцаў. Працуюць па 12 гадзін у суткі. Зрэшты, у такой сітуацыі, калі чалавек адрэзаны ад свету, толькі праца прыдае яму раўнавагі.

Праўда, намагаліся стварыць тут умовы, падобныя да ўмоў жыцця на паверхні зямлі, аднак нягледзячы на гэта, жыхары «Лагера» знаходзяцца ўвесь час у нязвыклай псіхічнай напружанасці. Тым болей, што знаходжанне ў атамным горадзе ёсць у некаторай ступені небяспечным. Паволі і непазбежна атамны горад апускаецца ўніз. Штораз больш на паверхні, прыбывае снегу, расце яго ціск. Сцверджана таксама, што ільды прасоўваюцца, сёння горад знаходзіцца на 15 метраў далей ад свайго ранейшага месца. Раней ці пазней будзе ён, так сказаць, «выціснуты» у акіян на падабенства вядомых ледзяных гор, якія штодзень ныраюць з берагоў Грэнландыі ў воды Атлантычнага акіяна.

Атамны горад мае вайсковы характар. Амерыканскія спецыялісты цвердзяць, што «Лагер Стагоддзя» з'яўляецца дасканалым сховішчам у выпадку тэрмаядзернай вайны.

Тоўстыя слаі ільдоў змогуць ахаваць чалавека перад шкодным і смяртэльным уплывам радыёактыўных ападкаў. Затым, будова «Лагера Стагоддзя» мае яшчэ і другое значэнне — амерыканцы на яго прыкладзе хочуць даказаць, што чалавек зможа нават і ў такіх нязвыклых умовах захаваць сваё здароўе і поўную свядомасць, што чалавечая цывілізацыя зможа існаваць таксама і пад векавымі пакладамі ільдоў.

Наўрад, ці гэта з'яўляецца надзейным ратункам для чалавека перад жудасцямі тэрмаядзернай вайны... (а-ся)

# 600 год польскага кнігадрукарства

Польскае кнігадрукарства вяжацца неразлучна з узнікненнем Кракаўскай Акадэміі, якая ў гэтым годзе святкуе таксама 600-годдзе існавання. Дакумент, звязаны з гэтымі падзеямі, выдадзены каралём Казімірам Вялікім, мае дату 12 мая 1364 года. Найперш кніжкі выдаваліся ў рукапісным выглядзе. Першы кракаўскі друк маем з 1476 года. Першая друкаваная кніжка была рэлігійнага характару і на лацінскай мове. Друкарства хутка распаўсюджваецца па Польшчы і ўжо ў XVI стагоддзі было ў нас звыш 100 друкарняў.



**Першым сталым кракаўскім друкаром быў Святопэлк Фіёль. Яго друкарня працавала ў 1490—1491 гадах. За такі кароткі час ён выдаў больш 500 аркушаў друку. У канцы 1491 года яго абвінавацілі ў «ерасі» і пасадзілі ў турму.**

**Ілюстрацыя па дрэве да кніжкі «Rozmowy, które miał król Salomon mądry z Marchołtem grubym a sprośnym», выдадзеная ў 1521 годзе Геранімам Ветарам у Кракаве. З яго друкарні ў 1551 годзе выйшла 250 прац. (вл)**





Новыя фільмы

# МАДАМ САН ЖЭН

**Французская камедыя з часоў Напалеона. Дарэчы, ён сам тут выступае — гэты маленькі нервовы чалавек. Мадам Сан Жэн (Софія Лорэн) — найперш жыццерадасная прачка, паступова жонка дворскага маршала, дама, якой цяжка дастасавацца да вымогаў двара.**

**На здымку кадр з фільма, звярніце ўвагу на люстры зверху. (вл)**

# ЧОРНЫ КОНГ

**Самыя куслівыя стварэнні ў свеце водзяцца ў джунглях трапічных краін. Але сярод іх выдзяляецца сваім норавам мурашка чорны конг. Даўжыня дарослай мурашкі амаль што тры сантыметры, а ўкус яе выклікае нясцерпны боль.**

**Швед Нільс Фок, удзельнік многіх навуковых экспедыцый, не раз быў ахвярай злоснага насякомага. Калі яго спыталі, з чым ён мог бы параўнаць «прыемнасць» ад свайго надзвычай блізкага знаёмства з чорным конгам, той адказаў, што аддаленае ўяўленне аб ім можа даць хіба толькі дотык накаленага дабяла жалеза.**

Юрый Долд-Міхайлік

# БАРОН ГОЛЬДРЫНГ пасля вайны

**На гэты раз ён павёў Гольдрынга доўгім калідорам і прыадчыніў дзверы ў маленькі зусім парожні пакой. Акрамя століка і двух крэслаў, тут нічога не было.**

**— Пачакайце, да вас выйдуць! — кінуў сержант і знік.**

**Генрых быў упэўнены, што за ім сочаць праз якуюсьці патайную дзірачку, і з падкрэслена спакойным выглядам прыкурыў цыгарэту. Некалькі недакуркаў ён паспеў пакласці ў попельнічку, але ніхто не ішоў, пра яго, мабыць, забылі.**

**Нарэшце, дзверы пакоя бясшумна адчыніліся, і на парозе з'явілася постаць, якую Генрых менш за ўсё чакаў тут сустрэць. Дробнымі крокамі пакой пераходзіў падрэ, маленькі, хударлявы, з высушаным, амаль васковым тварам, пакрытым мярэжай глыбокіх зморшчын. Апушчаныя павекі пазбаўлялі гэты твар усякіх адзнак жыцця. Здавалася, гэта рухаецца мумія, загорнутая ў доўгую чорную сутану. Але вось павекі падняліся, адкрыліся лагодныя чорныя вочы, і адразу ажылі вусны, рассунуліся зморшчыны, твар муміі стаў тварам жывога, хоць і старога, чалавека.**

**— Сядайце, сын мой! — голас у падрэ быў такі ж мяккі і лагодны, як яго позірк.**

**Генрых сеў, абапёршыся локцямі на стол, як гэта зрабіў і яго неспадзяваны субяседнік.**

**— У вашых вачах, сын мой, я бачу здзіўленне і таму прыходжу да вываду, што вам не так ужо часта**

10

**даводзілася мець справу з духоўнымі асобамі. Ці не так?**

**— Сіньёр падрэ! Я не так добра ведаю італьянскую мову, каб свабодна размаўляць на ёй.**

**— Размаўляеце па-англійску?**

**— Не!**

**— А я вось не ведаю нямецкай... То што ж нам рабіць? — падрэ на нейкую хвіліну задумаўся ці зрабіў выгляд, што задумаўся. Затым у яго вачах мільганулі агеньчыкі.**

**— Мне здаецца, што ёсць такая мова, з дапамогай якой мы хутка зразумеем адзін аднаго. Ці не так? — зусім свабодна, не запінаючыся, прамовіў падрэ на чыстай украінскай мове, пявуча расцягваючы канчаткі слоў.**

**— Яволь! — знарок па-нямецку адказаў Генрых.**

**— Чаму вы адказваеце па-нямецку?**

**— А адкуль вы зразумелі?.. Вельмі рады! Для кожнага прыемна размаўляць на роднай мове.**

**— Гэта святая ісціна. Але як вы, сын мой, ставіцеся да таго слова, якое дапамагло вам у дзіцячыя гады пазнаць свет і навуку?**

**Для Генрыха стала зразумела, што падрэ добра паінфармаваны пра мінулае свайго субяседніка.**

**— Спадзяюся, падрэ, вы прыйшлі не для таго, каб выявіць мае адносіны да украінскай мовы, якой вы так цудоўна валодаеце? — у голасе Генрыха адчувалася нецярпенне.**

**Падрэ здаволена апусціў бровы, але голас у яго, як і раней, гучаў лагодна і прымірэнча.**

**— Надта прыемна размаўляць з чалавекам справы. Вы, паважаны бароне, вызвалілі мяне ад патрэбы, лепш сказаць, ад нуднага абавязку марнаваць час на ўступную прамову. У вашым характары, мне здаецца, з'ядналіся нямецкая пунктуальнасць і амерыканская дзелавітасць. Бо час — грошы. І не будзем яго марна траціць Спачатку, хто я? Сціплы радавы свяшчэннік грэка - каталіцкай царквы. Завуць мяне айцец Фоцій. Наш уладар, яго свяцейшаства папа рымскі, даручыў мне, азнаёміўшыся са справаю на**

11

**месцы, далажыць яму пра стан нашай шматпакутнай паствы, асабіста сярод пераможаных. Бо калі пакутуе людская плоць, але весяліцца душа веруючага, благадаць божая стаіць каля варот жыцця раба свайго.**

**— Прабачце, айцец Фоцій, але як можа весяліцца душа раба божага, калі ў яго забралі аўтамат і загналі за калючы дрот лагера для ваеннапалонных? — насмешліва прамовіў Генрых, раззлаваны няпэўнымі адказамі пастара на свае запытанні.**

**Айцец Фоцій нібы не заўважыў гэтага раззлаванага тона.**

**— Моцны не той, сын мой, хто мае зброю зямную, а той, у каго дух ва ўсеўзбраенні, каб змагацца з ворагамі веры нашай...**

**— Я аддаю перавагу аўтамату з поўным боекамплектам да яго. То, можа, пакінем спрэчкі пра род зброі і пяройдзем да сутнасці справы, якая, відавочна, і прывяла вас сюды.**

**На гэты раз вялікія чорныя вочы айца Фоція бліснулі нядобрым агнём.**

**— Калі вы настойваеце, то слухайце... Выкладу сэнс справы коратка. Як вы, магчыма, заўважылі, мне вядомы ўсе падрабязнасці вашай біяграфіі. Не пытайце адкуль, гэта не мае значэння. Але важней іншае: вы чалавек малады, энергічны і, трэба спадзявацца, веруючы. Хацелася б, каб вы не загубілі сваіх талентаў, а свой розум, здольнасці і энергію выкарысталі на барацьбу з ворагамі царквы нашай.**

**— Па-вашаму, мне трэба стаць прапаведнікам? — адкрыта гледзячы, запытаў Генрых.**

**Айцец Фоцій зноў зрабіў выгляд, што не заўважыў тона свайго субяседніка.**

**— Не, такой ахвяры мы ад вас не чакаем. У вашых здольнасцях і талентах афіцэра мае патрэбу народ, які стаў на шлях справядлівай барацьбы за сваю свабоду і сваю веру.**

**— Вось цяпер я ўжо нічога не разумею, ойча! — шчыра прызнаўся Гольдрынг і глянуў у вочы субяседніку.**

12



 

